*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 32 (619) 27 ЖНІЎНЯ 2003 г.

Старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта
*Міхаілу Якаўлевічу Паўлаву*
*220050, г. Мінск, пр. Скарыны, 8*

## Адкрыты ліст

**Паважаны Міхаіл Якаўлевіч!**

Набліжаецца 1 верасня. Сотні тысяч дзяцей зоймуць свае месцы за вучнёўскімі сталамі абраных імі школ. І толькі навучэнцы Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, адзінай беларускай установы такога тыпу ва ўсёй краіне, пазбаўлены такога права.

Мы ў чарговы раз звяртаемся да Вас з гэтай нагоды і просім узяць на сябе адказнасць за станоўчае вырашэнне канфліктнай сітуацыі.

Мы прапануем:

1) юрыдычна замацаваць за ліцэем будынак па вул. Кірава, 21 з мэтай яго прамога выкарыстання пасля рамонту;

2) тэрмінова на час рамонту выдзеліць прыдатнае памяшканне для заняткаў ліцэістаў (напрыклад, у якой-небудзь адной школе ў цэнтры горада) з тым, каб зняткі ў ліцэі пачаліся своечасова.

Шчыра верым, што менавіта Вы ў стане вырашыць гэтае не вельмі складанае пытанне педагагічна мудра і па-гаспадарску рупліва.

*Прынята на сакратарыяце ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" 21 жніўня 2003 г.*

З павагай
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** Алег Трусаў.

*Заява сакратарыяту ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"*

## 70 год назад хацелі знішчыць беларускую мову

26 жніўня 1933 года ў савецкай Беларусі адбылася рэформа беларускай мовы, мэтай якой была няспынная русіфікацыя і паступовае, на працягу некалькіх пакаленняў знішчэнне адной з самых прыгожых і мілагучных славянскіх моваў у свеце, на якой размаўляла болей за 10 млн. чалавек.

Перад гэтым былі арыштаваныя, забітыя альбо кінутыя ў сталінскі ГУЛАГ тысячы беларускіх навукоўцаў, пісьменьнікаў, выкладчыкаў ВНУ і настаўнікаў, актыўных носьбітаў і стваральнікаў жывой беларускай мовы. Пасля доўгай "сталінскай ночы" на Беларусі заўзята змагаліся з беларускай мовай выхаванцы Хрушчова і Брэжнева, а потым і іх сённяшнія паслядоўнікі. Аднак наша мова не загінула, і на ёй у другой палове 20 ст. былі створаны шэдэўры прыгожага пісьменства еўрапейскага ўзроўню. Гэта мова Ларысы Геніюш і Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча і Янкі Брыля, Ніла Гілевіча і Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава і Генадзя Бураўкіна, Вольгі Іпатавай і Уладзіміра Арлова. Актыўна захоўвала ў XX ст. жывую беларускую мову ў яе класічным варыянце і беларуская дыяспара.

ТБМ выступала і выступае за вяртанне асноў класічнага беларускага правапісу, удасканаленага ў адпаведнасці з рэаліямі XXI ст. Мы заклікаем беларускіх мовазнаўцаў паскорыць працу над выданнем адпаведных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Надыдзе час, калі класічны беларускі правапіс сучаснага ўзору прыйдзе ў кожны клас, кожную студэнцкую аўдыторыю, у кожны беларускі дом.

21. 08. 2003 г.

## "РАТУШУ" ЛІКВІДАВАЛІ

**21 жніўня а 15:40 скончылася судовае паседжанне па справе аб ліквідацыі Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша". Суд вырашыў, што "Ратуша" падлягае ліквідацыі за паўторнае здзяйсненне дзеянняў, за якія раней выносілася папярэджанне.**

Суд адхіліў прэтэнзіі Упраўлення юстыцыі Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэту, якія былі высунутыя на мінулым тыдні. Паводле меркавання суддзі, кніжка, выдадзеная тры гады таму і на якой змешчаная на той час незарэгістраваная сімволіка аб'яднання, а таксама буклет арганізацыі не могуць быць рэчавымі доказамі парушэння "Ратушай" свайго статуту. Да таго ж, суддзя адхіліў прэтэнзіі Упраўлення юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкаму, што да пячаткі аб'яднання і "ажыццяўлення аб'яднаннем дзейнасці, што супярэчыць ягонаму статуту".

*"Фактычна "Ратуша" ліквідаваная за парушэнне правілаў уліку і захоўвання паліграфічнага абсталявання (рызографа). Арганізацыі выносілі папярэджанне за выкарыстанне рызографа ў 2002 годзе і ўвесну бягучага. На падставе двух папярэджанняў яна і ліквідаваная"*, - кажа каардынатар сістэмы калектыўнай абароны НДА **Юры Чавусаў.**

Пазоў аб ліквідацыі "Ратушы" быў пададзены гарадзенскім абласным упраўленнем юстыцыі 21.04.2003. Арганізацыю абвінавацілі ў тым, што яна быццам бы займаецца выдавецкай і паліграфічнай дзейнасцю без атрымання ліцэнзіі.

***Алёна Андрэева,***
***www.belngo.info***

## Скарынаўская сімволіка на камені для Полацка

Гэты камень будзе ўстаноўлены ў Полацку да Дня беларускага пісьменства і друку перад аднайменным музеем.

Камень падрыхтаваны ў якасці падарунка гораду Полацку лідскім скульптарам Рычардам Грушам.

На камені стылізаваны герб горада - ладдзя, у якой ветразь утвараюць літара "П" са скарынаўскай эмблемай унутры. "П" можа абазначаць і Полацк, і пісьменства, і першадрукар.

Сонца маладзіковае ўзыдзе на радзіме нашага вялікага першадрукара. І вельмі сімвалічна, што камень у Полацк будзе дастаўлены з Ліды, менавіта ў Лідзе стаіць найбольш грандыёзны помнік Скарыну.

Здымак зроблены ў майстэрні Рычарда Грушы ў Лідзе 22.08.2003 г.

***Яраслаў Грынкевіч.***

### *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на чацвёрты квартал 2003 года. Толькі ў нас вы знойдзеце ўсю інфармацыю па праблемах нашай мовы, нашай нацыі і нашых нацыянальных здабытках ды перспектывах. Толькі ў нас уся інфармацыя пра дзейнасць ТБМ. Толькі на нашых старонках можа выказацца кожны сябар ТБМ. Будзьце з намі!*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі / пераадрасоўкі | **3090** руб. / руб. | Колькасць камплектаў | **1** |
|---|---|---|---|---|

На2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)





## НА 15-Я ЎГОДКІ БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА,

### што ў Прошчы паўночна-амерыканскіх пакутнікаў у Мідландзе, Канада

5 верасня 2003 года Беларускаму памятнаму Крыжу, узнесенаму на адзначэнне тысячыгоддзя хрысціянства ў Беларусі ў Прошчы паўночна-амерыканскіх пакутнікаў, споўніцца 15 год.

Гісторыя паўстання Беларускага памятнага Крыжа была такая. У другой палове 70-х гадоў, як і увесь візантыйскі хрысціянскі свет, беларусы Канады рыхтаваўся да святкавання ў 1988 годзе тысячагоддзя хрысціянства ў Беларусі. Узнікла ў нас думка адзначыць Millenium манументам – Беларускім памятным Крыжам у Мітландзе – святым мейсцы, дзе размешчаны манументы шматлікіх нацыянальнасцяў Канады, беларускага ж тады там не было...

І гэтак у 1987-м годзе Згуртаванне Беларусаў Канады пад старшынствам др. Раісы Жук-Грышкевіч пачало стараннi аб дазвол на пабудову Беларускага Крыжа ў Прошчы. Дазвол атрымалі ад кіраўніцтва Прошчы ажно ў студзені 1988 году. У гэтым юбілейным годзе беларускі манумент павінен быў быць збудаваны і асвечваны. ЗБК удалося арганізаваць у верасні таго ж года і сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта, каб у часе яе пры вялікай колькасці суродзічаў адбылося асвячэнне Беларускага памятнага Крыжа. Часу на правядзене гэтых двух вялікіх праектаў было мала. Не абышлося і бяз камплікацыяў, ды ўсё ж дзякуючы дапамозе Божай на трэці дзень 18-ай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, 5-га верасня 1988 года, удзельнікі яе з Бацькаўшчыны, Аўстраліі, Еўропы, ЗША і Канады – зрабілі паломніцтва ў Прошчу, што каля Мідланда, блізу 200 км. на поўнач ад Таронта, каб быць удзельнікамі ўрачыстасці высвячэння Крыжа.

Перад св. літургіяй, адпраўленай айцом Аляксандрам Надсанам, Апостальскім візітатарам для беларусаў, айцец Джэймс Фарэл, дырэктар Прошчы, што прывітаў паломніцтва беларусаў, вітаў пабудову беларускага манумента і ацаніў гэтую гістарычную падзею, як узмоцненую сувязь з Усявышнім у малітвах за здзяйсненне нашых ідэалаў. Наша малітва ішла да Бога ў нашай роднай мове. Толькі св. Евагелле, апрача як па-беларуску, прачытаў па-ангельску а. Фарэл. Апостала чытаў др. Вітаўт Рамук з Чыкага.

Пасля літургіі ў капліцы паломнікі перайшлі да беларускага Крыжа. Ужо здалёк віднеў на ўзгорку паміж, бел-чырвона-белым беларускім і з кляновым лісткам канадыйскім, сцягамі, на фоне зелені хвояў, з мануменатльнай годнасцю ўзнімўся ў неба бронзавазалацісты шасьціканцовы Еўфрасінеўскі Крыж.

Да багаслужбы ўсе спявалі пад кіраўніцтвам сп. Змітра Ціханюка, кіраўніка царкоўнага хору ў Гайнаўцы, гітарыста ансамблю "Дубінаў".

Гонар адкрыцця мемарыяльнае таблiцы на каменнай падставе Крыжа, заслоненай бел-чырвонабелым сцягам а. Надсан даручыў др. Раісе Жук-Грышкевіч.

*Паводле Раісы Жук-Грышкевіч.*

## ПАБАЧЫЎ СВЕТ "БЕЛАРУСКІ УСХОД"

Пры садзейнічанні Крычаўскага грамадскага культурна-асветніцкага аб'яднання "Кантакт-цэнтр" і асабіста яго кіраўніка Леаніда Свеціка быў выдадзены літаратурна-мастацкі альманах ўсходніх раёнаў Магілёўшчыны "Беларускі Усход", куды ўвайшлі вершы і проза мясцовых аўтараў Чэрыкаўскага, Касцюковіцкага, Клімавіцкага, Краснапольскага, Крычаўскага, Слаўгарадскага і Мсціслаўскага раёнаў.

Нядаўна адбылася прэзентацыя гэтага выдання ў г. Чэрыкаве, на якой выступалі і сябры Чэрыкаўскай суполкі ТБМ.

Такім чынам вялікую радасць прынеслі энтузіясты гэтай справы мясцовым творцам Усходняй Магілёўшчыны.

Наша суполка таксама выказвае сваю ўдзячнасць "Кантакт-цэнтру" за тое, што на старонках альманаха знайшлося месца і яе сябрам: Станіславу Хахлову, Алегу Сорыну, Рыгору Халінскаму (Кажухіну). Далейшых вам поспехаў, шаноўныя!

***Станіслаў Хахлоў,***
***старшыня Чэрыкаўскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны.***

## "МЕТАМАРФОЗЫ" ПОШТЫ БЕЛАРУСІ

Узяцца за пасанне гэтага допісу у шэраг беларускіх СМІ і адміністрацыю прэзідэнта Беларусі мяне змусіла наступная акалічнасць. Усім нам, адукаваным людзям, добра вядома, што візітоўкаю ў свеце любой дзяржавы служаць у першую чаргу яе паштовыя атрыбуты: канверты, маркі, паштовыя штэмпелі Сёння сорамна успамінаць той факт, што нам на Украіну амаль на працягу сямі гадоў незалежнай Беларусі ішлі канверты з паштовымі маркамі, якія "гасіліся" паштовымі штэмпелямі няіснай дзяржавы "СССР". Першыя беларускамоўныя штэмпелі нам былі ўспрыняты з радасцю, што нарэшце і Беларусь стала сапраўднай дзяржавай, як паказвалі надпісы на штэмпелях: "Беларусь. Мінск. Паштамт" і г. д. А якія цудоўныя паштоўкі з беларускамоўнымі надпісамі "З Калядамі", "З Новым Годам", "Са святам!", "З Вялікоднымі днямі" і г.д. атрымоўвалі! Так, на правялікі жаль, атрымоўвалі: ужо гады два нашыя сваякі з Беларусі дасылаюць нам паштоўкі на якіх няма беларускамоўных пажаданняў са святамі! Хто так "распарадзіўся" мы можам толькі гадаць! Але толькі не патрыёт сваёй Радзімы! Нам сорамна за такія "метамарфозы", шаноўныя чыноўнікі-расейскамоўныя, але ж вы яшчэ не "падданыя" Расіі, а грамадзяне суверэннай дзяржавы, імя якой Беларусь а не "Белоруссия", і мы этнічныя беларусы бліжняга і далёкага замежжа, жадаем атрымліваць не расейскамоўныя паштоўкі са святамі, а на сваёй роднай беларускай мове!!! Калі ласка, паважайце нашы патрыятычныя пачуцці, калі згубілі свае ўласныя а, магчыма, іх у вас і не было і не магло быць у людзей, якія жывуць на беларускай зямлі і не валодаюць мовай гэтай зямлі! У новым, 2003 годзе паштавікі Беларусі падрыхтавалі нам увогуле "сюрпрыз": замест беларускамоўных паштовых штэмпеляў яны зноў - цікава за чый кошт і навошта гэта зроблена?- увялі ў абарачэнне... расейскамоўныя! Марка "Беларусь", а штэмпель – расейскамоўны. Вось самы свежы: "Витебск – 33" і без указання краіны, быццам бы гэты беларускі горад ужо стаў "губернскім цэнтрам" Расіі! Спадзяюся, што мой пратэст ад імя усёй нашай суполкі і многіх маіх знаёмых украінцаў, абурадных новаю русіфікацыяй пошты у Беларусі, не застанецца без увагі кіраўніка беларускай дзяржавы.

***Пятрусь Капчык,***
***кіраўнік гурта Бел. культуры "Зорка Венера", Украіна.***

# Хронікі Анатоля Казловіча

Гэта кніга - шырокафарматнае палатно-карціна беларускага жыцця. Аповесці – дакумент, выкладзены літаратурна-мастацкімі сродкамі пісьменнікам, вядомым журналістам Анатолем Казловічам. Гэта вынік яго пяцігадовай працы ў юбілейны саракавы год уласнай творчасці. Хронікі – аповесці прадстаўляюць сабой высокі густ, узор сучаснай айчыннай журналістыкі, якой у нас так недастае. Праўдзівасць, безкампраміснасць у адзнаках палітычных падзей, саміх палітыкаў, адсутнасць суб'ектывізму робяць кнігу вельмі каштоўнай, як для кожнага суайчынніка, так і замежніка, тым, хто цікавіцца альбо вывучае нацыянальную адметнасць нашага этнасу.

Чытаючы, быццам узіраешся у люстэрка, пазнаеш сябе. Не раз схамянешся ад убачанага. Нават можаш не пазнаць, але гэта не значыць, што адлюстраваўся не дакладна. Проста даўно не глядзеўся. Як кажуць, ашчаджніўся да ўласнай непазнавальнасці... Кніга прасякнута гуманізма, яскрава праілюстраваны беларускі характар.

- Перамагаць старых нямоглых нельга, гэта нашы прадзеды, дзяды, бацькі, - сцвярджае аўтар у адной аповесці - хроніцы жыцця простай бабулькі. - Змагацца з бацькамі - амаральна, трэба пацярпець...

Цяжка страчваць з дзяцінства набытыя ідэалагемы, за якія змагаўся, праліваў кроў, якімі дыхаў і жыў, у чым быў сэнс жыцця. Перайначвацца цяжка, унікальна Але тым не менш, гэта кніга, як не парадаксальна, і ёсць дапаможнік перайначвання, хочаш таго ці не, а перайначвацца трэба, калі імкнешся рухацца наперад, жадаеш добра сваім нашчадкам. Пэўна таму аўтар выдае сваю кнігу на рускай мове, каб была найбольш даступна для кожнага суаайчынніка.

Не здарма хронікі Анатоля Казловіча маюць агульны назоў: "Беларусы между небом и землёй" Сімвалічна і праўдзіва. Сапраўды, беларус як бы завіс у Сусвеце. Ён у мроях, быццам чакае куды прызямліцца, за што ўхапіцца, каму верыць, калі гэту веру так нахабна ўкраў у беларускай даверлівасці іх першы абраннік? Як вярнуць гэту веру, абараніцца ад адурачвання? Беларус паступова, асцярожна прызямляецца, як паказана ў аповесці "Крэмень-трава" прызямліўся дзед з унукам разам з пчоламі. Ды вось бяда шкодзілі гэтаму прызямленню трутні: у адным выпадку-рэкет, спаліўшы сялібу, як колісь іх продкаў спаліла папярэдня ўлада, у другім - родненькая цяперашняя дзяржава, вымусіўшая пасекчы рамовікі на дровы. Не, беларус не вітае ў паветры, ён прыстасоўваецца да навакольнага новага, выпаўшага на яго долю, асяроддзя, як у аповесці "Ракета над хутарам".

Хронікі дазваляюць аналізаваць вірлівасць сучаснасці і вымушаюць задумацца над адвечнымі паняццямі: чалавек, мова, нацыя, дзяржава, грамадства, прырода, свабода, адказнасць і вера. Пераканаемся яшчэ раз, што цэментацыя, умацаванне грамадства адбываецца на паслядоўных ступенях піраміды? Сям'я, род, нацыя, дзяржава, а не наадварот.

Аповесці – эсэ Казловіча – гэта гісторыя нашага пакалення, храналогія падзей станаўлення самастойнай, незалежнай дзяржавы ад часоў дзейнасці Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання да сённяшніх дзён, характарыстыка дзейнасці многіх вядомых палітыкаў ад правага да левага крыла палітычнага руху краіны. Аўтар прадэманстраваў майстэрскі ўзор асветніцтва, што для многіх жыхароў вельмі неабходна.

Кніга выдадзена па зразумелых матывах за мяжой, у Смаленску. Яе варта мець у кожнай сям'і, бо гэта наша гісторыя, але наклад яе невялікі. Усяго адна тысяча асобнікаў.

*Мікола Лавіцкі.*

## Шаноўныя сябры!

Таварыства беларускай мовы пачынае кампанію збору беларускай літаратуры для дзяцей і падлеткаў у дапамогу інтэрнатам, дзіцячым і школьным бібліятэкам. Вядома, што гэткіх, як і іншых, кнігаў там страшэнна бракуе.

Вы можаце папросту заносіць беларускія кніжкі ў вышэйзгаданыя ўстановы, або прыносіць іх на сядзібу ТБМ па адрасе: Румянцава, 13 з 10 да 14 гадзін (акрамя суботы і нядзелі).

Дапаможам нашым дзеткам вырасці адукаванымі і культурнымі грамадзянамі Беларусі!

**Старшыня ТБМ А. А. Трусаў.**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**ПРАВОДЗІЦЬ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца***
***2 і 4 верасня ў 18.00***
***у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

Перад прысутнымі выступіць доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч. Тэма семінараў: "Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска".
Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.




*Да 140-х угодкаў паўстання 1863 года*

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# РЫЦАР СВАБОДЫ

## *Трагедыя ў дзвюх дзеях*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

***Каліноўскі.*** Хваляванні ў Царстве Польскім, што праяўляліся ў розных дэманстрацыях і пратэстах супраць расійскай тыраніі, не маглі не мець уплыву на наш край. Выпрацаваная гісторыяй спагада ліцвінаў і жамойтаў з часоў Вялікага княства Літоўскага ўзмацніліся найбольш у часы гаспадарання Расіі пасля падзелу Рэчы Паспалітай, перамагла ўсякія абставіны, супраціўныя паўстанню, і ліцвіны з жамойтамі па прыкладу палякаў узяліся за вілы, косы ды сякеры. Узяліся нават не папярэджаныя Польшчай аб сваім выступленні, не кажучы ўжо пра нейкае ўзгадненне.

***Шалгуноў.*** Но почему же в таком случае...

***Каліноўскі.*** У нас не было іншага выйсця. Мы не маглі чакаць у баку нейкага іншага выпадку для свайго вызвалення. У нас быў адзін даўні, каварны і магутны вораг — імперская Расія. Нагода надарылася і гэтага было дастаткова, каб мы выступілі.

***Шалгуноў.*** Поляки какую ни на есть, а силу имели. А вы на что рассчитывали?

***Каліноўскі.*** І палякі, і мы разлічвалі на рускага мужыка, на расійскую інтэлігенцыю, на рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў, на адну вызвольную рэвалюцыю ад царызму і дэспатызму ў Расіі, Польшчы і нашым краі.

***Шалгуноў.*** Господин штабс-капитан, раскройте нам романтизм и наивность этого революционера-демократа его же цитатой.

***Сямёнаў*** *(зачытвае).* "Народ московский содрогнется от нашей извечной обиды. Он свободным братом нашим, а не притеснителем быть хочет и ответственность перед потомками за нашу железную неволю решительно возложит на готовый пасть царизм".

***Каліноўскі.*** І мы, і Польшча памыліліся ў рускім народзе. І не толькі ў тым, што ён не падтрымаў нашай рэвалюцыі і сам у яе не ўключыўся. Пасля шматгадовай вынішчальнай вайны на Каўказе расіяне перанеслі шавіністычную нянавісць усіх сваіх пластоў грамадства з народаў непакорнага Каўказа на народы Польшчы, Беларусі і Літвы. Гэта была першая прычына нашай паразы. А другая, што вынікала з першай — гэта выкарыстанне расійскай арміяй набытага досведу генацыду супраць каўказскіх народаў і прымяненага да нашых паўстаўшых народаў. Трэцюю ракавую прычыну паразы парадзіў Варшаўскі Цэнтральны нацыянальны камітэт, які адверг лозунг Герцэна "земля крестьянам — самобытность окраинам", зацвердзіў праграму аднаўлення польскай дзяржавы ў межах былой Рэчы Паспалітай на 1772 год з уключэннем у яе склад Літвы, Беларусі і Правабярэжнай Украіны. Па аналогіі з польскай праграмай наш план на нацыянальнае вызваленне Паўночна-Заходняга краю, як ад Расіі, так і ад Польшчы выклікаў усё той жа шавіністычны шквал нават у асяроддзі прагрэсіўнай расійскай грамадскасці.

***Сямёнаў.*** А вы ожидали чего-то иного?

***Каліноўскі.*** Так, мы чакалі іншага.

***Гогель.*** И кричали: "Польское дело — это наше дело, это дело свободы!"

***Каліноўскі.*** Напачатку — крычалі. Пакуль не зразумелі, што не супалі ў нас з Польшчай ні канчатковыя мэты рэвалюцыі, ні спосабы дасягненняў гэтых мэтаў. "Белая" польская партыя паноў-землеўладальнікаў аб'явіла шляхецкую рэвалюцыю. Мы, партыя "чырвоных" — сялянскую, народную. Убачыўшы нашу нязгоду з праграмай "белых", яны захапілі ў свае рукі кіраванне паўстаннем у нашым краі. Тады мы рашуча адмежаваліся ад іх і стварылі свой Нацыянальны Урад. Я стаў не толькі кіраўніком паўстання ва ўсіх губернях Паўночна-Заходняга краю, але і пільным вартавым інтарэсаў Беларусі і Літвы і найперш рупіўся пра тое, каб сродкі і сілы нашы зусім не ішлі на справу Царства Польскага. Мы пастанавілі за мэту...

***Шалгуноў.*** ...воспользоваться разладом России с Польшей и сделать Северо-Западный край некоей свободной и независимой республикой.

***Каліноўскі.*** А чаму б і не, калі логіка нават вам гэта падказвае. "Зямля — сялянам, воля — правінцыям".

***Шалгуноў.*** И весомое доказательство Западу на легкость торжества удачи провинции, которое станет одобрительным примером для крестьян соседних великорусских губерний?..

***Каліноўскі.*** Вы ўсё цудоўна разумееце. Але тое, што мы напачатку рэвалюцыі сапраўды разлічвалі на дапамогу Захаду, зусім не азначае, што я працаваў бы для Польшчы. Калі б з перамогай шляхецкай рэвалюцыі ў Польшчы не дай Бог уваскрэсла б старое магнацтва з усімі шляхецкімі традыцыямі, я не дапусціў бы магчымасці ўцягнуць Беларусь і Літву ў гэты вір. Я не дапусціў бы зліцця з Польшчай, пры якім потым ад яе нельга было б адлучыцца. Я бачыў Паўночна-Заходні край, нашу Літванію такой, якую можна было б ператварыць у дзяржаву з усеагульным ураўненнем правоў і станаў. Я бачыў не канфедэратыўную Польшчу і імперскую Расію! Я бачыў самастойную, незалежную Беларуска-Літоўскую дзяржаву. Я не адзін раз заяўляў, што дурным варшаўскім мазгаўням нельга даваць лёс ліцвінаў і жамойтаў. Тое ж самае я мог бы сказаць і пра маскоўскую кумку.

***Гогель.*** И создать нечто похожее на Великое княжество Литовское, Русское и Жемойтское? Я правильно вас понял?

***Каліноўскі.*** Вы разумнік, паручнік Гогель. І ўсё да драбніцы правільна зразумелі. Калі б мы нават не хацелі гэтага, традыцыі ВКЛ жывуць і трывожаць не толькі нас, але і вас. Кожнаму ліцвіну і жамойту так абрыдла двухгаловая пернатая пачвара, што яны гадоў сто марáць толькі пра Пагоню.

***Шалгуноў.*** Вы действительно настойчиво проводили идею возвращения к нечему подобному на ВКЛ, но насколько мне известно, имели в этом деле серьезных противников в среде петербургских столпов "Великого будования".

***Каліноўскі.*** Гэта і прывяло мяне да думкі самому стаць начале руху, чым валачыцца ў хвасце пецярбургскіх разумнікаў.

***Шалгуноў.*** Еще вопросы к подследственному имеются?

***Гогель.*** Какова была помощь восстанию нашей петербургской "Земли и воли"?

***Каліноўскі.*** З яе боку нам — ніякай, мы ж ёй меліся пасласць друкарню, але вашы тут у Вільні яе перахапілі. Так што ніхто нікому не завінаваціўся.

***Сямёнаў.*** Ваше отношение как католика к православию?

***Каліноўскі.*** Звычайнае, нармальнае, талерантнае. Што да праваслаўя расійскага, то разглядаю яго толькі ў цеснай сувязі з самадзяржаўем, з царызмам, з агрэсіўнасцю.

***Шалгуноў.*** Сегодня Особая следственная комиссия по вашему делу, видимо, закончит свою работу. Не имеете ли на кого из членов комиссии объявить претензии или подозрения?

***Каліноўскі.*** Прад'яўляць камісіі прэтэнзіі і падазрэнні лічу бессэнсоўным. Але ўлічваючы абяцанне вашага благародзія дадаць да маёй тэзы аб трох эпохах выспявання сацыяльнай і нацыянальнай рэвалюцыі сваю чацвёртую эпоху, быў бы рады ўзбагаціцца ўноскам вашага благародзія ў рэвалюцыйную тэорыю.

***Шалгуноў*** *(ледзве стрымліваючыся, злосна і з'едліва).* Четвертая, так называемая, эпоха, любезный — это эпоха умиротворения края после разгрома ваших шаек и бандформирований и создания надлежащих условий для полного и окончательного слияния Белорусско-Литовского, а точнее, Северо-Западного края с Россиею для, разумеется, достављения счастья здешнему народу!

***Каліноўскі.*** Калі б ваша благародзіе было такім жа цярплівым і карэктным, як і падчас нашага дыспуту ў маёй вязніцы, то я заўважыў бы, што не з'яўляюся супраціўнікам шчасця народнага, не супраціўнік я і Расіі, калі яна дабра майму народу жадае, але супраціўнік тых бядотаў і гвалту, якія зноў могуць авалодаць краем нашым няшчасным. А таму, калі лёс кідае нас у становішча, што мы павінны зрадніцца з Расіяю, я лічу са свайго боку абавязкам заявіць некалькі слоў у гэтых адносінах, каб пазбегнуць многіх лішніх ахвяраў пры парадженні новага ладу грамадскага ў Літве і на Беларусі.

Хто мяркуе, што Расія лёгкую ў гэтым будзе мець задачу, той мяркуе павярхоўна, той сябе абманвае. Цянёты, абхапіўшыя нас ва ўсіх класах і яднаючыя нас Польшча, маюць столькі падстаў у традыцыях і нават забабонах, што разблытаць гэтыя цянёты, знішчыць іх і стварыць нешта новае складае векавую, сістэматычную разумовую працу. Бо палітыка — дзеянне разумовае. А чыноўнікі-агітатары, якія збіраюцца цяпер з усіх канцоў Расіі, нічога ў нас не зробяць у справе з'яднання, пра якое вы з такой злавеснай іроніяй заўважылі, а толькі абмануць сябе. Урад ваш, не выканаўшы задуманага, давядзе край, нават супраць свайго жадання, да новых ахвяраў, да новых народных няшчасцяў. Пакуль ваш урад не набудзе спачування ў сапраўды створаным класе тутэйшага насельніцтва, да тых часоў слова Расіі не знойдзе адгалоскаў у сэрцах беларусаў і жамойтаў, не кажучы ўжо пра палякаў.

У маім усведамленні я злачынца не па перакананні, але па збегу абставін, а таму няхай і мне будзе дазволена ўцешыць сябе надзеяй...

***Шелгунов*** *(абрывае).* Утешить себя надеждой вы сможете только в единственном случае — раскрыв конспиративную сеть повстанческой организации и назвав следственной комиссии всех своих сообщников из тех, которые еще нами не пойманы, не повешены, не сосланы и вами за кардоном не укрыты! Ответьте однозначно, готовы ли вы дать показания на сей счет устно и сейчас или изложите их на бумаге в камере, не торопясь.

***Каліноўскі.*** Предпочитаю сейчас и в письменном виде. К тому же на русском языке, чтобы поручику Гогелью переводить не надо было.

***Шалгуноў*** *(радасна).* Давно бы так! Вы же умный человек...

***Каліноўскі.*** Благодарю за комплимент... *(Перадае Шелгунову канверт. Той таропка вымае з яго аркуш, разгортвае, чытае.)*

***Шалгуноў.*** "Я, Константин Викентий Калиновский, будучи призванный для допроса в Особую следственную комиссию и отвечая на вопросы ее членов с откровенностию относительно характера действий и личного участия моего в деле бывшего восстания в крае поставлен в затруднение и невозможность быть в такой же мере правдивым и точным в показаниях относительно соучастников своих. На требования Комиссии о побудительных причинах к такому моему заявлению даю следующее показание.

Выработав трудом и жизнью сознание, что если гражданская откровенность составляет добродетель, то шпионство оскверняет человека, что общество, устроенное на иных началах, недостойно этого названия, что Особая следственная комиссия, как один из органов общественных, не может отрицать во мне этих начал, что указания мои о лицах, которые делают чистосердечные признания или о которых Особая следственная комиссия знает иным путем, не могут способствовать умиротворению края, — я счел необходимым заявить Особой следственной комиссии, что в ее допросах насчет личностей, ею указываемых, я поставлен в положение, не соответственное ее желаниям, и должен быть сдержан в своих показаниях по вышеупомянутым причинам. Заявление это делаю в той надежде, что Особая следственная комиссия свойственным порядком устранит безвыходное мое положение. Причины и последствия мною хорошо обдуманы, а сознание чести, собственного достоинства и того положения, какое я занимал в обществе, не дозволяют мне следовать по иному пути.

Викентий Калиновский".

***Каліноўскі.*** И постскриптум — устно: из-под партьеры торчат ноги генерала-труса, а из истории XIX столетия будут всегда торчать уши, уши российского генерала-вешателя. Гонар маю! *(Шпарка выходзіць з пакоя, за ім кідаецца Паліцмейстар.)*

*З-за парц'еры выходзіць Мураўёў.*

***Шалгуноў*** *(разгублена, вінавата).* Ваше высокопревосходительство! Замечая в продолжении производства следствия, что характер его показаний, не лишенный откровенности относительно участия его в деле метежа, был совершенно уклончив и сдержан во всем, что касается до указания лиц, с которыми он, по роду своей деятельности, несомненно имел отношения. Право, ваше высокопревосходительство, мы надеялись до последнего. Комиссия многократно взывала и вызывала его к показанию истины и составления перечня сообщников. Но вы сами убедились...

***Мураўёў.*** Да уж...

***Шалгуноў.*** И ввиду такого его заявления, которое, как мне кажется, не оставляет никаких надежд, и принимая во внимание вполне обнаруженные его преступления, мы бы полагали позволительным дело о нем закончить и представить вашему высокопревосходительству.

***Мураўёў.*** Надеюсь, проект постановления у вас уже заготовлен?..

***Шалгуноў*** *(з радасцю і палёгкай).* Так точно-с, ваше высокопревосходительство! *(Адкрывае апошнюю старонку следчай справы, кладзе яе на край стала бліжэй да Муравьева.)*

***Мураўёў*** *(паволі, з задавальненнем піша, прамаўляючы кожнае слова).* Калиновского... предать... военному... суду и окончить... оный... в трое суток. *(Распісваецца. Шелгунову.)* Сие стило соблюдите для истории! *(Перадае гусінае пяро Шелгунову. Той з урачыстым паклонам прымае "экспанат".)*

*Сцэна паволі зацямняецца.*

### IX

*З розных кропак пражэктары высвечваюць шыбеніцу, што стаіць амаль каля рампы. Цені ад яе кладуцца на ўсю прастору бялюткага, як саван, адзення сцэны. Пад пятлёю — невялікі ўслончык, ля слупа шыбеніцы — лесвічка на тры прыступкі.*

*Чуваць далёкі, перарывісты, трывожны пошчак барабанаў, які даволі хутка нарастае, набліжаецца, запаўняе сабою прастору. З абодвух парталаў сцэны выбягаюць па тры-чатыры салдаты і становяцца перад першым радам залы, накіраваўшы стрэльбы са штыкамі над галовамі гледачоў. З глыбіні сцэны, з гэтых злавесных шыбеніц-ценяў да натуральнай шыбеніцы ідзе Кастусь Каліноўскі. Ён у чорным летнім гарнітуры і бялюткай сарочцы пад шырокім гальштукам. Вецер варушыць яго светлыя, хвалістыя валасы. За тры-чатыры крокі ззаду за ім ідуць поплеч у зімняй жандарскай форме палкоўнік Лосеў і Паліцмейстар. Замыкае шэсце доктар Фавелін у цывільным з медычным сакваяжам. Усе спыняюцца, калі Каліноўскі становіцца на эшафот пад пятлю. Паліцмейстар падымае руку. Барабаны замаўкаюць.*

*(Заканчэнне на ст. 4.)*

*Да 140-х угодкаў паўстання 1863 года*

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# РЫЦАР СВАБОДЫ

## *Трагедыя ў дзвюх дзеях*

*(Заканчэнне.)*

***Лосеў*** *(раскрывае чырвоную папку з залатым цясненнем двухгаловага арла пад каронамі. Чытае вельмі зычна.)* Именем закона Российской империи военно-полевой суд Вильнюсского военного округа 4-го дня месяца марта 1864 года приговорил... дворянина Викентия Константина Калиновского...

***Каліноўскі*** *(не вельмі гучна, але выразна)*. У нас няма дваранаў, усе роўныя!...

*Паліцмейстар становіцца побач з Каліноўскім, раіць "прекратить".*

***Лосеў.*** ...приговорил дворянина Викентия Константина Калиновского, сына Семенова, 26-ти лет за принятие звания члена революционного Комитета Литвы, а вместе с тем за измену государству, склонение к бунту жителей казнить смертию повешением, как самостоятельного распорядителя в течение нескольких месяцев восстанием во всем Северо-Западном крае России.

Показания в суде снимал аудитор Егоров. Присутствовали: представитель суда полковник Глейнинг, ассесоры капитан Понтелеев, поручик Соколовский, подпоручик Фон-Стендер, прапорщик Баженов, прапорщик Гейслер, прапорщик Ветелин.

*Здаецца Каліноўскі не чуе прысуду. Ён абводзіць позіркам натоўп, угледаецца ў яго, шукае некага, вельмі яму патрэбнага. Потым бярэ ўслончык, ставіць пад пятлю і лёгка ўзнімаецца на гэту апошнюю прыступку ў жыцці.*

***Каліноўскі*** *(да натоўпу нечакана для катаў).*
Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго!

*Лосеў губляецца, Паліцмейстар таропка лезе на лесвічку, але не можа адразу дацягнуцца да пятлі.*

А калі слова перойдзе ў дзела,
Тагды за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе...

*Лосев узмахвае рукою і апошнія словы Каліноўскага заглушаюць барабаны. Паліцмейстеру нарэшце ўдаецца аваладаць пятлёю. Святло рампы гасне. І так жа раптоўна цемру прараэае кароткі надзвычай яркі ўсплеск маланкі. (Менавіта яркі, як маланка, усплеск святла бачаць у першую секунду тыя, хто памірае ў пятлі).*

*Усё цішэй і цішэй трашчаць барабаны. Знікаюць салдаты.*

### ЭПІЛОГ

*Праз пэўны час у промні святла з глыбіні сцэны да рампы падыходзіць чалавек у сучасным цывільным гарнітуры, падобны на Фавеліна.*

***Фавелін.*** Паважаная грамада! Шаноўныя нашчадкі Рыцара Свабоды! Мой прашчур доктар Фавелін канстатаваў смерць і закрыў вочы Кастусю Каліноўскаму. Ушануем светлую памяць волата духу мінутай смутку і жалобы. *(Усе устаюць, гучыць арган.)* Прашу сесці. І прашу дазволіць мне выканаць святы абавязак роду Фавеліных — напомніць чарговаму пакаленню ліцвінаў-беларусаў фрагмент з запавету Нацыянальнага Героя пакутнай Беларусі, які ён перадаў нам з-пад шыбеніцы праз сапраўднага расійскага інтэлігента доктара Фавеліна. (Пераказвае запавет, зрэдку заглядаючы ў кнігу.) "Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но не жаль загінуць за тваю праўду.

Прымі, Народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як з таго света толькі для дабра твайго напісана.

Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тагды ён толькі магчымае жыцці ў багацтве, па праўдзе, тагды ён толька, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць.

Но як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам наука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацця і ніякай наукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу.

Для таго, Народзе, як толька калі пачуеш, што браты тваё б'юцца за праўду й свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но ўхапіўшы за што зможаш, за касу, сякеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за свае чалавечае і народнае права, за сваю зямлю родную.

Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе.

Твой слуга Яська-гаспадар з-пад Вільні".

Не мог ведаць на той час Яська, што на пачатку 1865 года маскоўскі ярыга ў чыне генерала-вешальніка дасць аўгусцейшаму манарху справаздачу, што ў губернях Паўночна-Заходняга краю яго стараннямі павешана і расстраляна 128 кіраўнікоў паўстання, 12483 барацьбіты за волю і незалежнасць сасланы на катаргу з іх 159 ксяндзоў, 3476 асобаў прывіліяванага саслоўя, 8848 прасталюдзінаў, ды больш за 9 тысяч пройдуць праз суды і будуць узяты пад нагляд жандармаў.

Яську не суджана было уведаць гэтыя жудасныя факты дзікага азіяцкага генацыду над еўрапейскай цывілізаванай нацыяй. Але ж нам гэта, як глыбокая зарубка на памяці. Як загад быць пільнымі і непахіснымі ў сваёй сённяшняй волі.

*Заслона*

***Менск—Ждановічы—Нарач. 2000 г.***

# З фальклорнай вандроўкі

"Фальклор – гэта чысты крынічны струменчык народнай мудрасці, слова, песні, абраду, жарту".

У народзе кажуць: "Слова не верабей выляціць не зловіш". Вось і мне давялося крышачку адпачыць, павандраваць у сівой старажытнасці Палесся, па радзіме мудраца, епіскапа Кірылы Тураўскага ды палавіць тутэйшых слоўцаў.

Тут закладаліся асновы праваслаўнай царквы на Беларусі, пад час жыцця і асветніцай дзейнасці "Златавуста", які ярчэй за ўсіх зіхацеў на Русі"

Як птушкі кожную вясну прылятаюць з выраю на радзіму, так і памяць зноў і зноў вяртае нас да прастораў, да прыгожага паляшуцкага краю, яго таленавітых людзей.

Славіцца Жыткавіцкі раён Гомельскай вобласці сваімі цікавымі абрадамі, менавіта рэгіянальная спецыфіка адрознівае кожную вёску, дый мова своеасаблівая. Палешукі беражліва ставяцца да народнай мудрасці шануюць і перадаюць маладшаму пакаленню гэты народны куфэрак шматгадовага жыццёвага досведу. Унікальныя абрады: "Аберагальны", "Зліўкі", "Жаніцьба Коміна, "Меранне сарочкі", "Юр'я" і іншыя можна пабачыць у вёсках Пагост, Любавічы, Дзедаўка, Запясочча, Верасніца і іншых.

Працавітыя рукі і мудрасць селяніна заўсёды руплiва шчыравалі на палетках, але і вeсялуны гэтыя палешукі. Вандруючы па знаёмых мне вёсках, бо дваццаць пяць год працаваў на гэтай азёрнай прыгажунізямлі з Народным ансамблем танца "Прыпяць", дарэчы ў наступным годзе яму спаўняецца сорак год, дзе пехатою, а дзе і пад'еду, маляўнічыя натуральныя вёскі, сустрэчы са старажыламі, проста тут ля хаты на лавачцы, нас атачаюць качкі, куры, парсючок чмокае ля нагі.

Але, што гэта, на ускрайку дарогі ля вельмі прыгожага поля, добрай цыбулі, капусты, морквы, стаіць бабулька з клуначкам за спіною і моліцца Богу, а затым гаворыць: "А Божачка, а свецейка, а мо то я на месяц трапіла, гэта ж такія роўненькія радочкі, а ні травінкі, а які ураджай, ніколі ў нашым калгасе такога цуда не бачыла. А вы адкуль, пытаю я, ай я здалёк, з Петрыкаўскага раёну я, вось да сваячніцы ў Хільчыцы іду. Скажы чалавеча гэта так калгас даглядае. Не, бабуль, гэта селянская гаспадарка Міхася Рыгоравіча Шруба, вось і мне вельмі прыемна глядзець на гэтую прыгажосць, на поўныя каласы пшаніцы, на такія качання мах, мах. Бабулька ў адказ: "Вось гэта гаспадар, а думала, што на месяцы апынулася, ну пайду у вёску.

А, я яшчэ пастаяў і ўспомніў што такое прыгожае поле бачыў у Германіі ў фермера, эх, усю б зямельку так любіць і шанаваць, то і яна б нас шанавала.

Вандруючы заўсёды знайдзеш новыя песні, таны прымаўкі, прыказкі, бо наш народ гэта талент.

Фальклор з сшытка:

***Калі з хлебам, калі з квасам,***
***Затое з жартам,***
***выкрутасам-***
***Нашы людзі так гуляюць,***
***Ажно сэрцы заміраюць***

***Пайшоў бы я ў скокі –***
***Лапці парвуцца.***
***Прыўдарыў бы драпака –***
***Аборы валакуцца.***

***"Беларусая мова і танец – адзін у нас шанец".***

***"Зараз усе ад страху танцуюць, бо зноў вышэйшыя цэны чуюць".***

***"Дзед, тэлевізар гаворыць, толькі сабражэння няма".***

***"Трэба рабіць скідку, на галаву накідку, палку ў рукі і выганяць дурныя штукі".***

***"Каб табе пацукі пальцы паадгрызалі, як ты, падлюка, слізнявая, п'еш, каб цябе п'яўкі пілі, даўбешка ты мурзатая".***

Адзін пытае у другога: ***"Што такое цыцкі?"*** Той адказвае – ***"Цыцкі – гэта тое, то можна ўзяць ў жменю, а астатняе – гэта вым'е"***

Мне застаецца шчыра падзякаваць людзям за добрыя адносіны, за зберажэння народных традыцый.

Хай ніколі не сканчыцца мудрасць людская.

***Мікола Котаў,***
***навуковы супрацоўнік НДЛ беларускага фальклору БДУ.***



Векавы дуб з "выкрунтасамі" на Тураўшчыне

***Рэдактар Станіслаў Суднік***

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 25. 08. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 1947.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)